Васіль ДАВЫДЗЕНКА:

# «МАЛАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ — ДАСТОЙНЫ КРОК У РЫНАЧНУЮ ЭКАНОМІКУ»

**Ацэньваючы эканамічную сітуацыю ў краіне, большасць айчынных і замежных экспертаў асноўным паказчыкам у структурным рэфармiраванні краіны лічаць дасягненні прыватызацыі. Што датычыцца вялікай прыватызацыі (маецца на ўвазе рэфарміраванне заводаў, фабрык і іншых буйных прадпрыемстваў), то ў пошуках «справядлівых для ўсіх» рашэнняў аб ёй у апошні час амаль што не ўспамінаюць. Прыватызацыя гарадской, камунальнай маёмасці (яе ў сваю чаргу ахрысцілі малой прыватызацыяй), пачала сваю гісторыю на Беларусі ў 1993 годзе. Тэмпы «малой» таксама нельга назваць імклівымі, але ёй усё ж удалося выжыць, а ў некаторых рэгіёнах сабраць добры ўраджай.**

### ЧАГО ДАСЯГНУЛІ

Намеснік міністра па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Васіль Давыдзенка адзначыў, што ў рэспубліцы рэфармiравана 451 прадпрыемства гандлю, 178 арганізацый бытавога абслугоўвання і 118 структур грамадскага харчавання. З іх на аўкцыёнах прададзена 350 і на конкурснай аснове — 147 аб'ектаў. Атрымліваецца, што больш як 2/3 аб'ектаў камунальнай маёмасці былі прададзены на аўкцыёнах і конкурсах. Спадар Давыдзенка прызнаў заслугі спецыялістаў Міжнароднай фінансавай карпарацыі (МФК), з дапамогай якіх міністэрства вызначылася з асноўным спосабам прыватызацыі — аўкцыёнам. Раней — у 1992 і ў 1993 гадах, як правіла, прымяняўся спосаб прыватызацыі ў выглядзе выкупу дзяржаўнай маёмасці працоўнымі калектывамі і выкупу арандаванай маёмасці калектывам-арандатарам. Аднак пры аналізе прыватызаваных аб'ектаў работнікі Міндзяржмаёмасці і кіраўнікі тэрытарыяльных упраўленняў прыйшлі да высновы, што найбольш пасяхова прымяняюцца рычагі рынкавай эканомікі і вядзецца вельмі плённая работа на прадпрыемствах, якія былі прададзены з аўкцыёну.

Галоўная мэта рэфарміравання ўласнасці, на думку намесніка міністра, у значным павышэнні эфектыўнасці працы прыватызаваных падраздзяленняў. Менавіта такіх вынікаў дасягнулі прыватызаваныя магазіны г. Мінска — «Юбілейны» і «Крышталь», прадуктовы магазін № 1 у Першамайскім раёне і універсам «Цэнтральны». Пасля сур'ёзнага рамонту яны сталі больш прывабнымі для наведвальнікаў. Прадпрыемствы працуюць у найбольш зручны для наведавальнікаў час, а ў шэрагу выпадкаў — кругласутачна. Кіраўніцтва магазінаў для прыцягнення пакупнікоў стараецца знізіць гандлёвую нацэнку на 5—10 працэнтаў, і таму цэны тут па многіх параметрах ніжэйшыя, чым у дзяржаўных структурах.

### ЧАМУ ТОПЧАМСЯ

Нельга не заўважыць, што ў многіх рэгіёнах Беларусі працэсы рэфарміравання муніцыпальнай уласнасці праходзяць з вялікай цяжкасцю, а ў некаторых месцах нават не зрушыліся з мёртвага пункту. Такая абстаноўка назіраецца цяпер у Віцебскай вобласці і ў гарадах Мінску і Брэсце. На погляд кіраўніка Міндзяржмаёмасці, вінаваціць у гэтай сітуацыі можна толькі мясцовыя ўлады. Бо для таго, каб працэсы раздзяржаўлення і прыватызацыі былі праведзены ў дзеянне, неабходна, па- першае, прыняць мясцовую праграму прыватызацыі аб'ектаў гарадской камунальнай маёмасці; па-другое, зацвердзіць пералік аб'ектаў, якія будуць выстаўляцца на продаж. І толькі на 3-м месцы прычынай поспеху прыватызацыі з'яўляецца сама арганізацыя правядзення аўкцыёнаў і конкурсаў. Таму, каб прыватызацыя праходзіла ў адпаведнасці з заканадаўствам, мясцовыя выканкомы абавязаны распрацаваць і ўзяць на ўзбраенне гэтыя дакументы. Аднак, як відаць з даных Міндзяржмаёмасці, са 162 тэрытарыяльна-адміністрацыйных фарміраванняў (абласцей, гарадоў, раёнаў) у першым квартале бягучага года толькі ў 74 былі прыняты праграмы прыватызацыі, а значыць, толькі ў гэтых раёнах будуць прыватызавацца аб'екты муніцыпальнай уласнасці. А што ж астатнія?

Кіраўнік гарадскіх уладаў Брэста Аляксей Авечкін прычыну нізкіх тэмпаў малой прыватызацыі бачыць у тым, што грошы ад прыватызацыі ідуць напрамую ў бюджэт, якія ўжо цалкам распісаны. І таму свабодна распараджацца гэтымі сродкамі мясцовыя ўлады не могуць. Атрымліваецца, што ад прыватызацыі чакаюць не толькі стварэння эфектыўна працуючых прадпрыемстваў, але і значных грашовых «уліванняў».

### ПРАБЛЕМА АРЭНДНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ

На думку кіраўнікоў мясцовых органаў улады і супрацоўнікаў міністэрства, арэндныя прадпрыемствы так і не сталі па-сапраўднаму канкурыраваць ні з дзяржаўнымі, ні з прыватнымі структурамі. Вінавата ў гэтым перш за ўсё калектыўная форма ўласнасці, якая існуе на арэндных прадпрыемствах. З-за яе работнікі часта не адчуваюць сябе сапраўднымі гаспадарамі і не імкнуцца працаваць лепш. Для кіраўнікоў арэндных прадпрыемстваў захаванне адносінаў арэнды азначае і захаванне сістэмы кіравання, і свабоду ў прыняцці адміністрацыйных рашэнняў і ў распараджэнні маёмасцю. Але гэта нявыгадна ні грамадзянам, ні працоўнаму калектыву, ні дзяржаве. Рана ці позна прадпрыемства павінна быць прыватызавана і стане прыватным. Прыватызацыя такіх прадпрыемстваў, напрыклад, шляхам продажу з аўкцыёну спыніла б нарэшце размовы аб закрытым, выбіральным надзяленні маёмасцю, дазволіла б удзельнічаць у гэтым працэсе шырокаму колу асоб, садзейнічала б стварэнню канкурэнцыі, прынесла б адчувальны прыбытак гарадскому бюджэту.

### АДНОСІНЫ НАСЕЛЬНІЦТВА ДА МАЛОЙ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

У красавіку бягучага года ў рамках МФК праведзена сацыялагічнае даследаванне адносінаў грамадзян рэспублікі да праводзімых у краіне рэформаў. Па выніках апытання можна зрабіць выснову, што людзі ўжо ацанілі перавагу, якую дае малая прыватызацыя, і аддзяляюць яе ад прыватызацыі «наогул». 58,4 працэнта апытаных станоўча адносяцца да прыватызацыі аб'ектаў гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання. Такім чынам, хуткае правядзенне малой прыватызацыі не толькі не выклікае процідзеяння ў насельніцтва, але і знаходзіць падтрымку ў большасці жыхароў рэспублікі.

### ШТО ДЗЕНЬ НАСТУПНЫ НАМ РЫХТУЕ?

Як сцвярджае Васіль Давыдзенка, на Беларусі на сённяшні дзень прыватызавана не больш за 10 працэнтаў аб'ектаў гандлю і грамадскага харчавання. Аднак ужо ў бягучым годзе, па яго словах, будзе рэфарміравана 50 працэнтаў аб'ектаў муніцыпальнай уласнасці. У наступным годзе прадугледжана давесці гэты паказчык да 80 працэнтаў.

«Мы не ставім задачу прыватызаваць 100 працэнтаў аб'ектаў гарадской камунальнай маёмасці. Існуюць праблемы з рэфарміраваннем грамадскага транспарту, жыллёва-камунальных службаў і рамонтных упраўленняў. Але ўсё, што датычыцца гандлю і грамадскага харчавання, будзе ў наступным годзе прыватызавана начыста», — запэўніў Васіль Давыдзенка.

**Сяргей КУРКАЧ.**

**АДНОСІНЫ НАСЕЛЬНІЦТВА ДА МАЛОЙ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ**




РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

# ...ПАФАРБАВАЦЬ ЗЛІНЯЛАЕ АДЗЕННЕ

Заваляўся ў мяне стары плашч у шафе — добрая і калісьці прыгожая рэч. Адна толькі загана — пайшоў нейкімі плямамі пасля таго, як маці вешала яго некалькі разоў праветрывацца на балкон, дзе сонейка на ўсю моц прыпякала. Плашч мой пасля такіх цеплавых ваннаў і выгараў. Прыйшлося яго аднесці ў хімчыстку, каб там вярнулі яму ранейшы колер. Але хаджэнні па дамах быту былі падобны на блуканні няшчаснага пагарэльца: з торбаю ў руках прасіў я работнікаў (і работніц) сферы бытавога абслугоўвання дапамагчы ў вырашэнні маёй праблемы. І ўсюды адмаўлялі. Пад канец мае нервы ўжо не вытрымлівалі, і я пачаў кідацца на нявінных грамадзян у вакенцах прыёмных пунктаў бруднага адзення, як бык на чырвоную анучу, ці як вядомы персанаж рамана Ільфа і Пятрова стары Панікоўскі да гуся.

Прыйшлося вяртацца дадому ні з чым. Дрыжачай рукой набраў я нумар дырэктара вытворча-камерцыйнага аб'яднання «Беларусь», але таго на месцы не аказалася і адказ дала яго намесніца, якая расказала мне сумную гісторыю пра ачышчальныя збудаванні цэха афарбоўкі на вуліцы Альшэўскага, што выйшлі са строю ажно пяць гадоў таму. З той легендарнай пары і немагчыма ў Мінску што-небудзь пафарбаваць. Другая крыніца паведаміла пра тое, што ніякіх ачышчальных збудаванняў не было наогул і фарба лілася прама ў Свіслач. Таму і санітарныя службы горада налажылі вета на цэх афарбоўкі. Як яно было на самай справе, невядома, бо існуюць жа самыя розныя сведчанні на гэты конт. Зразумела адно — Мінску патрэбны ачышчальныя збудаванні, каб аднавіць фарбаванне адзежы. Таму што купіць новую для многіх проста немагчыма. У нас пакуль што не Захад, дзе ўвогуле не фарбуюць, а старыя рэчы проста выкідваюцца на сметнік. Адкуль яна ідзе зноў жа да нас у выглядзе гуманітарнай дапамогі ці славутага «сэканд хэнд», калі адзенне прадаюць на вагу. Словам, патрэбная для нашых умоў рэч — афарбоўка. Але да яе нам яшчэ як да Амерыкі — плыць ды плыць. «Таму што фарбавальнікі каштуюць шмат грошай, — так вызначыў асноўную прычыну віцэ-прэзідэнт Белбытсаюза Алег Кушнер. — Іх у асноўным за мяжой набываюць». Так, тона фарбавальніку «бардо» каштуе 100 мільёнаў беларускіх «зайцоў», чорнага колеру — 36—44, блакітнага — 78. І таму, што «грошай на гэтыя патрэбныя збудаванні проста няма», як паведамілі мне ва ўпраўленні бытавога абслугоўвання пры Мінгарвыканкоме. Наогул жа фарбуюць і ў Гродне, але толькі баваўняныя вырабы. А вось у Гомелі — усё, што толькі душа пажадае.

Наогул жа ў мінскіх хімчыстках зараз можна пачысціць паліто ў сярэднім за 57 тысяч, плашч — за 45, куртку на ўцепленай падкладцы — за 41, пінжак — за 31, штаны — за 26, сукенку — за 29, світэр — за 24 тысячы. А таксама пафарбаваць скураныя курткі: кароткую — за 92 тысячы, падоўжаную — за 115.

А мой плашч так і застанецца сіратліва вісець у шафе і чакаць з мора пагоды, не разумеючы такіх абыякавых адносінаў уладаў да патрэб людзей, калі звычайная паслуга становіцца дагістарычнай рэдкасцю.

Можа ўсё ж у Гомель з'ездзіць, на фабрыку «Сняжынка»? Каб аднавіць паліто з натуральнага валакна, трэба вылажыць 42,5 тысячы, са змешанага — 64,6; за плашч — 34—45,9 тысячы адпаведна; за куртку ці пінжак — 34—35,5 тысячы; за спартыўныя штаны — 13,6—20,4 тысячы; за звычайныя штаны — 13,6—27,2; за сукенку ці халат — 22,1—30,6; за спадніцу — 17—20,4 тысячы. Такім чынам, фарбуюць, фарбуюць усё ж, але сітуацыя ў гэтай галіне зараз такая заблытаная ды незразумелая, што сам чорт нагу зломіць.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## «ПАМЯЦЬ» З ПРАЦЯГНУТАЙ РУКОЙ

У сувязі з адсутнасцю ў абласным бюджэце неабходных сродкаў, у шэрагу раёнаў Гомельшчыны спынена работа над кнігамі «Памяць».

У сувязі з гэтым абласны арганізацыйна-метадычны цэнтр, які курыруе пошукавую і даследчыцкую работу па аднаўленню трагічнай і гераічнай гісторыі краю, звярнуўся да прадпрыемстваў, арганізацый, прадпрымальнікаў з просьбай аказаць пасільную бясплатную дапамогу для працягу работы і выдання рукапісаў абласной кнігі «Памяць».

**Леанід УЛАДЗІМІРАЎ.**

АКТУАЛІІ

# ФЕРМЕРСТВА НІЧЫІХ НАДЗЕЙ НЕ СПРАЎДЗІЛА, АЛЕ ЖЫВЕ

«Фермер, 35 гадоў, з Верхнядзвінскага раёна, прыстойны, заможны, шукае спадарожніцу жыцця і добрую гаспадыню для вялікай гаспадаркі», — такую аб'яву сустрэла ў Віцебску.

— Батрачка спатрэбілася, — тут жа пракаменціравалі дзве рахманыя жанчыны і засмяяліся.

Рэдка заяўляюць аб сабе фермеры, нават дзейснага аб'яднання ў маштабах вобласці, якое б абараняла іх інтарэсы, не захавалася. Цікавасць да іх у грамадстве, што некалі ўспыхнула, паволі згасла. Сёння мы самі сабе ледзь не ўсе «фермеры» — здабываем калі не хлеб, то сёе-тое да стала на ўласных «фазэндах».

І ўсё ж — жывы курылка! Нават вось жаніцца надумаў...

З задавальненнем сачу за поспехамі сем'яў Ірыны і яе сына Аляксандра Шалатоніных з Аршаншчыны. Адна з першых ластавак у раёне, фермерская гаспадарка вытрымлівае ўсё: і недавер, і нежаданне пайсці насустрач. З году ў год нарошчвае вытворчасць, дамагаецца прырэзкі гектараў і павялічвае пагалоўе жывёлы. Статкі кароў і свіней — як у невялікім калгасе, а эфектыўнасць гектара — як на Захадзе. Гэтая выснова — сведчанне спецыялістаў аблсельгасхарчу, якія прааналізалі вынікі вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, атрыманай Шалатонінымі ў мінулым годзе.

Між іншым, непадалёк ад іх размясціліся яшчэ тры сялянскія гаспадаркі: Паляковых, Шавялёвых, Кучынскіх. Мясцоваму калгасу варта прыглядзецца да сваіх уцалелых на комплексе кароў — ці не ператварыліся яны ў коз. Такое сумненне выклікаюць надоі. Фермеры ж трымаюцца. Летась не ў калгас наймаліся сезонныя работнікі, а ў сям'ю Кучынскіх.

Нямала іншых прыкладаў, якія наводзяць на роздум. Так, напрыклад, свае 290 тон бульбы Віктар Багачоў з Віцебскага раёна вырасціў без затрат ручной працы. А фермерская гаспадарка «Крыніца» з Пастаўскага раёна паспрабавала сябе ў інтэнсіўным вырошчванні морквы. Гаспадар Іван Гаўрыленка адвёў пад яе 7 гектараў і забяспечыў не толькі патрэбы раёна ў гэтым прадукце, але і базы Віцебска, вазіў нават у Мінск. 50 тон з вырашчаных 235 высушыў на Лёзненскім агароднінасушыльным камбінаце і залажыў у сховішча з тым, каб адгрузіць вітамін на расійскую Поўнач. Адходы морквы аддаў мясцоваму калгасу. У неспрыяльнае для збожжавых мінулае лета фермерка Ала Галічэнка з-пад Віцебска «ўзяла» свае 40 цэнтнераў з гектара...

Прыклады можна доўжыць, аж пакуль не пералічыш большасць з 740 сялянскіх гаспадарак Віцебшчыны. Яны або гаспадараць добра, або сыходзяць з дыстанцыі. Такое здараецца, але на змену ім прыходзяць новыя адчайныя людзі. І колькасць фермераў застаецца амаль нязменнай усе апошнія гады. Пакрысе растуць памеры надзелаў новых уласнікаў. Калі пачыналі яны ў сярэднім з 10 гектараў, то цяпер на кожнага прыпадае па 20, а ворыва з іх — па 14 гектараў. Летась упершыню фермерскія гаспадаркі перавысілі ўраджайнасць калгасаў і саўгасаў па збожжавых — на 1,5 цэнтнера з гектара, на 27 — бульбы, на 46 — агародніны. Надой на карову заўсёды быў вышэйшым, не стаў выключэннем і апошні год.

Аднак ніхто не спяшаецца заявіць аб перамозе фермерскага гаспадарання. Нават тыя, хто па абавязку службы аналізуе лічбы. Праўда, трэба аддаць належнае калегіі Віцебскага аблсельгасхарчу, прэзідыуму абкома прафсаюза работнікаў АПК і рэдкалегіі абласной газеты «Віцебскі рабочы». Яны аб'явілі агляд-конкурс на лепшую сялянскую гаспадарку на гэты год. Чатыры гады існавання фермерства не выклікаюць аптымізму не таму, што запужвае яно цяжкай, беспрасветнай працай. Здаецца, прыйдзем-такі да думкі, што без рупнасці наогул нідзе не абысціся, не толькі на зямлі, але і на асфальце. Справа ў іншым. Дастаткова зірнуць на другі бок медаля, а там адкрыецца такая карціна. Трэць сялянскіх гаспадарак, як высветліў нядаўна прэзідыум абласнога Савета дэпутатаў, вывучыўшы інфармацыю аб стане спраў з фермерствам, не выкарыстоўваюць выдзеленую ім зямлю. Не сеюць яны таму, што няма ў іх насення, паліва, сродкаў апрацоўкі пасеваў. Дзяржаўная падтрымка руху існуе. Летась, напрыклад, выдзелена 11,8 мільярда рублёў (з запланаваных, дарэчы, 16 мільярдаў). Дзякуючы фінансаваму ўліванню дзяржавы асушаны 182 гектары зямлі, на 170 гектарах праведзены культуртэхнічныя работы, пабудавана 30 кіламетраў дарог, пракладзена 9 кіламетраў ліній электраперадач, 9 гаспадарак забяспечаны вадой. Выдаткоўваюцца крэдыты і пазыкі на будаўніцтва вытворчых памяшканняў і набыццё тэхнікі. Імі, дарэчы, карысталіся 662 гаспадаркі. Ды не надта «разжыліся». Сёння ў іх 794 трактары (лічы, па аднаму на двор), 230 коней.

Ды гэта ў сярэднім. Трэць жа наогул не мае ніякай цяглавай сілы. А крэдыты трэба вяртаць. І ўжо на 116 мільёнаў рублёў яны адтэрмінаваны, 253 мільёнаў дасягнула непагашаная адтэрміноўка.

Чатыры гады назад, калі нараджалася фермерства, яму адводзілася цалкам акрэсленая дапаможная роля. Мелася на ўвазе, што разгорнецца яно ў глыбінцы, размесціца на хутарах і такім чынам «падцягне» сельскую гаспадарку ў аддаленых ад цэнтраў кутках, на менш урадлівых глебах. Менавіта таму найбольш перспектыўнай бачылася для распаўсюджвання заходняга ўзору гаспадарання Віцебская вобласць. Сапраўды, яна хутка выйшла ў лідэры па рэспубліцы: тут было зарэгістравана трэць усіх фермерскіх гаспадарак Беларусі. Але справа не ў гэтым. Новыя гаспадары не памкнуліся як мага хутчэй прынесці росквіт у сельскія паселішчы з колькасцю жыхароў да 10 чалавек і 227 узятых пад увагу пунктаў наогул без пастаяннага насельніцтва (так меркавалася). І не пайшлі яны ўзнімаць сельскую гаспадарку эканамічна слабых раёнаў. Наадварот, у большасці сваёй фермер ляпіўся да гарадоў. І сёння большасць новых гаспадароў — пад Віцебскам, Полацкам, Новалукомлем, у Глыбоцкім і Докшыцкім раёнах, дзе самыя спрыяльныя глебава-кліматычныя ўмовы. Іх там ад 67 да 53 на раён. А ў Расонскім — 11, Ушацкім, дзе самая нізкая бальнасць зямлі, — 5.

Не спраўдзілі фермеры спадзяванні ўладаў і па аб'ёмах рэалізацыі прадукцыі. Не стараюцца аддаць дзяржаве, а вязуць на рынак, спажываюць самі, прадаюць вяскоўцам. Ды і не ўсе з іх прагнулі зямлі: іншыя паквапіліся на крэдыты ды дапамогу. Словам, ёсць за што папракнуць і фермераў. Але ці ж гэта падстава, каб адвярнуцца ад іх наогул (што адбываецца на практыцы)? Ільготнае крэдытаванне, абвешчанае дзяржавай, засталося дэкларацыяй. Летась, напрыклад, такога крэдыту для пачынаючых фермераў выдаткавалі 1 мільярд рублёў. Гэта якраз кошт аднаго трактара МТЗ.

**Паліна АЛЯКСАНДРАВА.**

САЛОН ЯКАСЦІ І ПАРАД

# ЯКОМУ АСПІРЫНУ АДДАЦЬ ПЕРАВАГУ?

Калі б хто задумаў вылічыць рэйтынг папулярнасці тых ці іншых лекавых сродкаў, то, безумоўна, пальму першынства атрымаў бы аспірын. Аспірын, або ацэтылсаліцылавая кіслата, нягледзячы на сваю «маладосць» (атрымалі дзесьці 90 гадоў назад), з'яўляецца агульнапрызнаным абязбольвальным, процізапаленчым і гарачкапаніжальным лекавым сродкам. Сёння гэты прэпарат вырабляюць дзесяткі фармацэўтычных фірмаў у многіх краінах свету. Апошнім часам яго асартымент нават у айчынных аптэках настолькі вялікі, што натуральна ўзнікае пытанне: якому аспірыну аддаць перавагу?

На фармацэўтычным рынку сёння акрамя традыцыйнага прадстаўлена шмат іншых відаў аспірыну: мікракрышталічны, буферны, шыпучы, у абалонцы і аспірын, які ўтрымлівае алюміній, кальцый, магній, халін і лізін. Буферны аспірын павышае хуткасць усмоктвання і пападання ў плазму крыві, таму яго добра выкарыстоўваць для хуткага абязбольвання, аднак яго дзеянне хутка спыняецца. Аспірын у абалонцы дазваляе больш дакладна дазіраваць паступленне сродка ў плазму і г. д..

Расійскі журнал «Спрос» разам з Асацыяцыяй канверсійных тэхналогій правёў тэсціраванне некаторых відаў аспірыну: чатырох «чыстых» відаў — фірмы BAVER (Германія), расійскі аспірын, фірмы ASPER (Грэцыя) і фірмы ОТТС (ЗША) — і два віды аспірыну, якія ўтрымліваюць вітамін С, — фірмы BAVER і фірмы UPSA (Францыя). Усе даследаваныя віды аспірыну адпавядаюць дэклараваным якасцям, не ўтрымліваюць пабочных інгрэдыентаў і бяспечныя, калі прытрымлівацца правілаў прымянення і рэкамендацый урачоў. І ўсё ж такі пры выбары і выкарыстанні аспірыну раім звярнуць увагу на наступныя моманты:

пры рэзкіх болях ці моцным запаленчым працэсе мэтазгодна выбіраць хуткарастваральныя формы аспірыну, напрыклад, «чыстыя» BAVER і ASPER.

пры моцных крывацёках і запаленні слізістай абалонкі страўніка найлепшы эфект дае аспірын, які ўтрымлівае аскарбінавую кіслату. Калі купляеце аспірын, звярніце ўвагу на тэрмін захоўвання прэпарата і цэласнасць упакоўкі. Захаванасць аспірына можна праверыць па адсутнасці паху воцату ад таблеткі, якую толькі-толькі дасталі з пачка;

трэба пазбягаць самастойнага і некантралюемага прымянення аспірыну. Прытрымлівайцеся парад урача;

сачыце за з'яўленнем першых прымет інтаксікацыі арганізма: звону ў вушах, задышкі, высыпанняў на скуры. Пра іх з'яўленне трэба адразу паведаміць урачу;

памятайце, што адной упакоўкі аспірыну часта дастаткова, каб дасягнуць ніжняй мяжы лятальнай дозы для дарослых — 10 грамаў. Аднаразовы ці за кароткі тэрмін прыём такой колькасці лекаў уяўляе сур'ёзную пагрозу для жыцця;

цяжарным жанчынам трэба пазбягаць прыёму вялікіх дозаў прэпарата, асабліва ў першыя тры месяцы.

**Рубрыку вядзе Сяргей ПРОТАС.**

АДКАЗ НА ПЫТАННЕ З КАНВЕРТА

# БУДУЦЬ ДАВЕДКІ — ВЕРНУЦЬ ПАСВЕДЧАННІ

У наш час парадоксаў хапае. Адзін з іх адбыўся і з групай бедакоў-ваеннаслужачых — ліквідатараў вынікаў чарнобыльскай катастрофы з Глыбоцкага раёна. Здалі яны свае пасведчанні на перарэгістрацыю, а ім і новых дакументаў не выдалі, і ранейшых не вярнулі. Чаму?

Глыбоцкі райваенком палкоўнік Емяльянаў, якому было даслана пісьмо ваеннаслужачых, адрасаванае ў «Звязду», адказаў:

— У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта № 267 ад 12.07.95 г. і Пастановай Кабінета Міністраў № 433 ад 8.08.95 г. «Аб мерах па рэалізацыі Указа Прэзідэнта «Аб удакладненні бюджэту Рэспублкі Беларусь на 1995 г. і часовых мерах па скарачэнню бюджэту расходаў» у перыяд з 1 па 31 кастрычніка 1995 г. праводзілася перарэгістрацыя ўдзельнікаў ліквідацыі аварыі на ЧАЭС падраздзяленняў асобай рызыкі.

Перарэгістрацыя ў Глыбоцкім раёне праводзілася ў адпаведнасці з графікам, зацверджаным Віцебскім аблваенкаматам. Пасведчанні былі перарэгістраваны, за выключэннем тых ліквідатараў, якія праходзілі зборы ў в/часці 62110, таму што ў архіўнай даведцы начальніка архіва штаба ЧБВА ад 16.04.91 г. не ўказана правядзенне работ у 30-кіламетровай зоне. Намі быў зроблены запыт ў архіў МА Рэспублікі Беларусь 3.11.95 г. за № 715. У сувязі з арганізацыйнымі мерапрыемствамі (перадыслакацыя архіва з ваеннага гарадка «Козырава» ў ваенны гарадок № 53) выдача даведак часова спынена, таму да гэтага часу адказу адтуль не паступала. 15 снежня 1995 г. гэты цэнтр аднавіў работу па выдачы даведак. Пры атрыманні станоўчага адказу аб рабоце ліквідатараў В. Шынелькі, С. Бароўкі, Н. Богуна і В. Капшуля ў 30-кіламетровай зоне іх пасведчанні камісіяй аблваенкамата будуць перарэгістраваны і вернуты. Пры адмоўным жа адказе камісія пісьмова паведаміць аб гэтым ліквідатарам.

## КАНДАМІНІУМ: БРЭСТ, КОБРЫН... ХТО НАСТУПНЫ?

**Брэсцкая мадэль сумеснага домаўладання (кандамініум) знаходзіць сваіх прыхільнікаў і ў іншых гарадах Беларусі.**

Нядаўна мэрыя горада Кобрына зацвердзіла Палажэнне аб сумесным домаўладанні і зарэгістравала першую асацыяцыю уласнікаў.

Цяпер асацыяцыя сама вырашае ўсе пытанні эксплуатацыі і добраўпарадкавання будынка: плаціць за электрычнасць, ваду і газ, рамантуе дом і яго камунікацыі, даводзіць да ладу пад'езды, падвал, гарышча і двор. На гэта ідуць грошы, якія плацяць уласнікі за камунальнае абслугоўванне, а тыя, хто пражывае ў дзяржкватэрах, — у выглядзе кватплаты. Яны паступаюць не на агульны рахунак жыллёвага ўпраўлення горада, а на рахунак асацыяцыі, і расходуюцца па яе рашэнню. Асацыяцыя мае права фарміраваць і штат персаналу, які абслугоўвае будынак, з ліку жыльцоў дома, а таксама здаваць памяшканні ў арэнду і атрымліваць дадатковы прыбытак.

**Сяргей КУРКАЧ.**

НЕВЯДОМАЯ БЕЛАРУСЬ

# БЯССТРАСНАЯ МОВА ЛІЧБАЎ

**Мы працягваем знаёміць чытачоў з сумнай статыстыкай з жыцця нашага шматпакутнага народа ў 20—50-я гады. Размова зноў пойдзе пра палітычныя рэпрэсіі ў гэты перыяд на Беларусі. «Звязда» змяшчала на сваіх старонках статыстычныя даныя, атрыманыя аўтарам на аснове аналізу лёсаў 7 тысяч чалавек, якія сталі ахвярамі палітычных рэпрэсій («Звязда», 20 кастрычніка 1993 года), і 20 тысяч чалавек («Звязда», 24 лістапада 1994 года). Сёння чытачу прапануецца статыстычны матэрыял, зроблены аўтарам на аснове апрацоўкі 40.300 картак персанальнага ўліку на жыхароў г. Мінска, Мінскай і Віцебскай абласцей, якія былі рэпрэсіраваны судовымі і несудовымі органамі ў 20—50-я гады і рэабілітаваны ў 1955—1994 гг.**

Зноў жа, як і ў дзвюх папярэдніх публікацыях, аналіз зроблены на аснове матэрыялаў, якія не падбіраліся спецыяльна, а паступалі ў Белкамархіў па меры рэабілітацыі грамадзян і запаўнення картак персанальнага ўліку ў адпаведных установах. Атрыманыя даныя даюцца ў лічбах і працэнтах. Каментарыі мінімальныя, слова — лічбам.

Сярод 40.300 грамадзян Беларусі, стаўшых ахвярамі палітычных рэпрэсій у 1917—1953 гг., 36.336 (90,16 працэнта) мужчын і 3964 (9,84 працэнта) жанчын ва ўзросце ад 18 да 63 гадоў. Звыш 90 працэнтаў з іх — асобы ва ўзросце ад 18 да 50 гадоў.

**Па нацыянальнаму саставу:**

а) беларусаў — 24413 (60,58 працэнта)
б) палякаў — 7809 (19,38 працэнта)
в) яўрэяў — 1691 (4,2 працэнта)
г) рускіх — 1137 (2,8 працэнта)
д) украінцаў — 256 (0,64 працэнта)
е) літоўцаў — 237 (0,59 працэнта)
ж) латышоў — 638 (1,58 працэнта)
з) татараў — 49 (0,12 працэнта)
і) іншых нацыянальнасцей — 4708 (11,68 працэнта)

**Па сацыяльнаму паходжанню:**

а) з рабочых — 3180 (7,89 працэнта)
б) з сялян — 31738 (78,75 працэнта)
в) са служачых — 1551 (3,85 працэнта)
г) з дваран — 810 (2,00 працэнта)
д) з памешчыкаў — 79 (0,2 працэнта)
е) з купцоў — 253 (0,63 працэнта)
ж) з духавенства — 319 (0,79 працэнта)

**Па партыйнасці:**

а) членаў КПСС — 1490 (3,7 працэнта)
б) членаў іншых партый — 132 (0,35 працэнта)
в) членаў ВЛКСМ — 122 (0,38 працэнта)
г) беспартыйных — 38556 (95,67 працэнта)

Тут трэба адзначыць, што перад тым, як справа перадавалася ў суд ці несудовым органам, камуністы з членаў партыі выключаліся.

**Па адукацыі:**

а) з вышэйшай — 1361 (3,38 працэнта)
б) з незаконччанай вышэйшай — 422 (1,05 працэнта)
в) з сярэдняй спецыяльнай — 221 (0,55 працэнта)
г) з сярэдняй — 2594 (6,44 працэнта)
д) з няпоўнай сярэдняй — 2377 (5,9 працэнта)
е) з пачатковай — 10389 (25,78 працэнта)
ж) з незаконччанай пачатковай — 17240 (42,78 працэнта)
з) непісьменных — 4221 (10,47 працэнта)

Па астатніх 1475 асобах звесткі аб адукацыі адсутнічаюць.

Як відаць, найбольшымі «ворагамі народа» былі грамадзяне з самым нізкім агульнаадукацыйным цэнзам.

Сярод прадстаўнікоў розных прафесій «першынство» належыць калгаснікам — 8142 (20,2 працэнта) і сялянам-аднаасобнікам — 11.649 (28,9 працэнта), затым ідуць рабочыя — 1600 (3,97 працэнта), настаўнікі — 457 (1,18 працэнта), інжынерна-тэхнічныя работнікі — 294 (0,73 працэнта), прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі — 80 (0,2).

Аб самавольстве, усёдазволенасці ўладаў пры таталітарным рэжыме сведчыць і тое, што з 40.300 прыцягнуты да адказнасці судовымі органамі толькі 3016 чалавек, ці 7,48 працэнта ад агульнай колькасці, астатнія ж справы разглядаліся несудовымі органамі. «Тройкамі» разгледжаны 20.033 справы (9,71 працэнта), калегіямі АДПУ — 1815 (4,5 працэнта), асобымі нарадамі — 7627 (18,93 працэнта), камісіямі НКУС СССР і пракурора СССР («двойкамі») — 6725 (16,69 працэнта), 1084 справы (2,669 працэнта) — іншымі несудовымі органамі.

За што ж, за якія грахі былі залічаны ў стан «ворагаў народа» нашы суайчыннікі? Так, па ўсім вядомаму артыкулу 58 Крымінальнага кодэкса РСФСР з усімі яго пунктамі да адказнасці быў прыцягнуты 2741 грамадзянін Беларусі, ці 6,8 працэнта. Найбольш «папулярным» артыкулам Крымінальнага кодэкса БССР быў 72-і — прапаганда і агітацыя супраць Савецкай улады. Па ім былі асуджаны 19.292 чалавекі (47,87 працэнта), затым ідуць: 68-ы артыкул — шпіянаж (11.557 чалавек, 28,68 працэнта); 76 — рознага роду арганізацыйная дзейнасць супраць Савецкай улады (10750 чалавек, 26,68 працэнта). Астатнія артыкулы — за контррэвалюцыйныя злачынствы — Крымінальнага кодэкса БССР 1928 года «размеркаваліся» наступным чынам:

а) артыкул 63 (здрада радзіме) — 2359 чалавек (5,85 працэнта);

б) артыкул 64 (падрыхтоўка ўзброенага паўстання) — 2924 чалавекі (7,26 працэнта);

в) артыкул 65 (зносіны ў контррэвалюцыйных мэтах з замежнай дзяржавай) — 848 чалавек (2,18 працэнта);

г) артыкул 66 (аказанне дапамогі замежнай буржуазіі) — 1408 чалавек (3,49 працэнта);

д) артыкул 67 (схіленне замежнай дзяржавы да нападу на СССР) — 111 чалавек (0,28 працэнта):

е) артыкул 69 (падрыў дзяржаўнай прамысловасці...) — 1871 чалавек (4,64 працэнта);

ж) артыкул 70 (ажыццяўленне тэрарыстычных актаў, накіраваных супраць прадстаўнікоў Савецкай улады) — 1227 чалавек (3,05 працэнта);

з) артыкул 71 (разбурэнне ці пашкоджанне дзяржаўнай маёмасці) — 2196 чалавек (5,45 працэнта);

і) артыкул 73 (неданясенне аб дакладна вядомым контррэвалюцыйным злачынстве) — 200 чалавек (0,496 працэнта);

к) артыкул 74 (актыўныя дзеянні супраць рабочага класа і рэвалюцыйнага руху) — 2179 чалавек (5,41 працэнта);

л) артыкул 75 (контррэвалюцыйны сабатаж) — 824 чалавекі (2,05 працэнта).

Многім ахвярам палітычных рэпрэсій прад'яўлялася абвінавачанне адразу па некалькіх саставах контррэвалюцыйных злачынстваў.

А вось як выглядаюць статыстычныя даныя па гадах асуджэння:

1919 — 5 чалавек (0,01 працэнта)
1920 — 165 чалавек (0,41 працэнта)
1921 — 147 чалавек (0,37 працэнта)
1922 — 21 чалавек (0,05 працэнта)
1923 — 18 чалавек (0,05 працэнта)
1924 — 120 чалавек (0,6 працэнта)
1925 — 122 чалавекі (0,3 працэнта)
1926 — 146 чалавек (0,36 працэнта)
1927 — 190 чалавек (0,47 працэнта)
1928 — 233 чалавекі (0,58 працэнта)
1929 — 1532 чалавекі (3,8 працэнта)
1930 — 3760 чалавек (9,33 працэнта)
1931 — 1096 чалавек (2,72 працэнта)
1932 — 2058 чалавек (5,11 працэнта)
1933 — 6144 чалавекі (15,25 працэнта)
1934 — 636 чалавек (2,58 працэнта)
1935 — 640 чалавек (1,59 працэнта)
1936 — 626 чалавек (1,55 працэнта)
1937 —10.065 чалавек (24,98 працэнта)
1938 — 5975 чалавек (14,83 працэнта)
1939 — 477 чалавек (1,18 працэнта)
1940 — 1848 чалавек (4,59 працэнта)
1941 — 907 чалавек (2,25 працэнта)
1942 — 109 чалавек (0,27 працэнта)
1943 — 50 чалавек (0,12 працэнта)
1944 — 105 чалавек (0,26 працэнта)
1945 — 968 чалавек (2,4 працэнта)
1946 — 549 чалавек (1,36 працэнта)
1947 — 142 чалавекі (0,35 працэнта)
1948 — 119 чалавек (0,3 працэнта)
1949 — 230 чалавек (0,57 працэнта)
1950 — 133 чалавекі (0,33 працэнта)
1951 — 152 чалавекі (0,38 працэнта)
1952 — 35 чалавек (0,09 працэнта)
1953 — 8 чалавек (0,02 працэнта)

Розныя меры пакарання атрымалі нашы суайчыннікі, прыцягнутыя да адказнасці: 116 (2,94 працэнта) з іх былі сасланы, 4460 (11,07 працэнта) высланы, а астатнім па прыгавору суда ці рашэнню несудовых органаў былі вызначаны розныя тэрміны пазбаўлення волі:

да 1 года турмы і паражэння ў правах былі прыгавораны 913 чалавек (13,04 працэнта)

5 гадоў папраўча-працоўных лагераў (ППЛ) атрымалі 6415 чалавек (15,92 працэнта)

6 гадоў ППЛ — 205 чалавек (0,51 працэнта)

7 гадоў ППЛ — 226 чалавек (0,56 працэнта)

8 гадоў ППЛ — 2677 чалавек (6,64 працэнта)

10 гадоў ППЛ — 5825 чалавек (14,45 працэнта) (У 20—30-я гады гэта быў найбольшы тэрмін пазбаўлення волі. — У.А.)

12 гадоў ППЛ — 7 чалавек (0,02 працэнта)

15 гадоў ППЛ — 102 чалавекі (0,25 працэнта)

20 гадоў ППЛ — 30 чалавек (0,07 працэнта)

25 гадоў ППЛ — 170 чалавек (0,42 працэнта).

І што вельмі цяжка ўсвядоміць, 12.864 чалавекі (31,92 працэнта) былі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання ці, як запісана ў Крымінальным кодэксе 1928 года, да вышэйшай меры сацыяльнай абароны. Карацей кажучы, былі расстраляны.

А цяпер аб рэабілітацыі. У 50-я—пачатку 60-х гадоў рэабілітацыя ішла даволі шпаркімі тэмпамі. Гэта відаць і з праведзенага аналізу.

У 1955 годзе было рэабілітавана 300 чалавек (0,82 працэнта),
У 1956 г. — 1876 (4,66 працэнта),
У 1957 г. — 1794 (4,45 працэнта),
У 1958 г. — 2305 (5,72 працэнта),
У 1959 г. — 2005 (4,98 працэнта),
У 1960 г. — 1603 (3,98 працэнта),
У 1961 г. — 819 (2,03 працэнта),
У 1962 г. — 610 (1,51 працэнта),
У 1963 г. — 416 (1,03 працэнта).

Затым гэты працэс паступова пачынае затухаць.

У 1964 годзе рэабілітавана 368 чалавек (0,9 працэнта),
У 1965 г. — 372 (0,92 працэнта),
У 1966 г. — 362 (0,8 працэнта),
У 1967 г. — 222 (0,55 працэнта),
У 1968 г. — 185 (0,46 працэнта),
У 1969 г. — 133 (0.33 працэнта),
У 1970 г. — 42 (0,1 працэнта),
У 1971 г. — 61 (0,15 працэнта).

З 1972 па 1988 год працэс рэабілітацыі практычна не адбываўся. У дадзеным канкрэтным выпадку толькі ў 1977 годзе былі рэабілітаваны 19 чалавек (0,05 працэнта) і ў 1987-м — 19 (0,05 працэнта). Новы імпульс працэс рэабілітацыі атрымаў з канца 80-х гадоў і асабліва з пачатку 90-х, калі ў нашай суверэннай дзяржаве была прынята Пастанова Вярхоўнага Савета «Аб парадку рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій 20—80-х гадоў у Рэспубліцы Беларусь». Так, ужо ў 1989 годзе было рэабілітавана 19.798 чалавек (49,13 працэнта), у 1990 г. — 782 (1,94 працэнта), у 1991 г. — 282 (0,7 працэнта), у 1992 г. — 3407 (8,45 працэнта), у 1993 г. — 216 (1,24 працэнта), у 1994 г. — 193 (0,48 працэнта).

**40.300 людскіх лёсаў, аб якіх ішла гаворка, — гэта больш як 6,5 працэнта ад ацэначнай лічбы ўсіх ахвяр палітычных рэпрэсій 20—50-х гадоў у Беларусі. На аснове праведзенага аналізу ёсць магчымасць гаварыць аб нейкіх агульных канцэптуальных падыходах па некаторых пазіцыях пры далейшым вывучэнні пытання аб тым, што здарылася ў нас у 20—50-я гады.**

**Уладзімір АДАМУШКА, намеснік старшыні Камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук.**

## Сяргей ГРАХОЎСКІ

### РАЗВОДДЗЕ

*І сёлета будзе паводка,*
*Як толькі растануць снягі,*
*Сарвецца прамерзлая лодка,*
*Разводдзе затопіць стагі,*

*Венецыяй стане Палессе:*
*Да ганкаў прыстануць чаўны,*
*Пачуецца лямант і песня*
*Цяпер і з сівой даўніны.*

*Вада закіпіць, завіруе,*
*Растоптаны зімнік знясе,*
*Вярбу перакуліць старую*
*Ў зялёнай апошняй красе.*

*Спалошча сатлелае смецце,*
*На крызе — і пер'е, і кроў,*
*І коцікі ўспыхнуць на вецці,*
*Як свечкі, над кручай віроў.*

*Зламаная ветрам галінка*
*Ў дзівоснай сваёй пекнаце*
*Прыб'ецца вадой да суглінка,*
*Зачэпіцца і расцвіце.*

*На сілу і веліч паводкі*
*Гатовы да зорнай начы*
*З трывогай, як нашыя продкі,*
*Глядзець з узбярэжжа Пцічы.*

1996

### ВЕРАСНІЦА

*Не ведаю, чаму дагэтуль сніцца*
*На Тураўшчыне вёска Верасніца,*
*Над Прыпяццю зімовыя дубы,*
*У пасівелым небе галубы,*
*Гладышкі і даёнкі на платах,*
*Гарбузніку і канапляны пах,*
*Каляндры і завялых мальваў подых,*
*І шум сухога лісця на гародах,*
*На беразе засмоленыя лодкі*
*І на вірах лілеі, быццам сподкі,*
*Гайдаюцца на загусцелай хвалі*
*Дажджынкі, як крыштальныя каралі,*
*Звіняць па затуманенай вадзе,*
*Зажураны па вішаі ідзе*
*Падбіты бусел адзінокі*
*І з сумам паглядае на аблокі,*
*Што праплываюць нізка-нізка.*
*За імі, як ружанцу нізка,*
*Спяшаюцца ў вырай журавы,*
*Каб прыляцець да першае травы.*
*Ім наўздагон ракітніку кусты*
*Шлюць каляровыя паштоўкі і лісты.*
*Не ўспомню, колькі прастаяў гадзін*
*Я над асенняй Прыпяццю адзін,*
*А і дагэтуль часта сніцца*
*Зажураная вёска Верасніца.*
*Яе прыпеўкі і яе тугу*
*Я ў памяці і ў сэрцы берагу.*

1994—96

### А САЛАВЕЙ СПЯВАЕ

*Бывае горка на душы,*
*Калі трывожна ў свеце,*
*А салавей пяе ў глушы*
*Чаромхавага вецця.*

*Заходзіць сонца за лясы*
*І ўзыдзе, як заўсёды,*
*Але цішэюць галасы*
*Яшчэ жывой прыроды.*

*Яе пакінулі на здзек*
*І нелюдзі, і людзі.*
*Няўжо і дваццаць першы век*
*Такі трывожны будзе?*

*Мне кажуць: «Боль не варушы,*
*Пакуль душа жывая».*
*Як добра, што ў лясной глушы*
*Зноў салавей спявае.*

❑ ❑ ❑

*Навошта мне дарэмная трывога*
*Пра нашу і не нашую бяду,*
*Калі і я з памылкамі да Бога*
*І ўсімі недахопамі пайду.*

*Пакаюся ва ўсім і павінюся,*
*І літасці адзінай папрашу:*
*Пакінуць назаўсёды ў Беларусі*
*Маю невінаватую душу.*

